№ 11(156)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Верасень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Оплата за обучение в белорусских вузах повысилась с 1 сентября в пределах 20%.**

Стоимость будет варьироваться в зависимости от формы обучения, а также от курса. При этом вузы имеют право в зависимости от своей экономической ситуации самостоятельно решать, насколько поднимать цену за обучение.

**У Беларусі з 3 верасня 2013 года адпускныя і рознічныя цэны на нафтапрадукты, якія рэалізуюцца праз АЗС, выраслі ў сярэднім на 5 %.**

Кошт 1 літра бензіну «Нармаль-80» цяпер складае 7,4 тысячы рублёў, АІ-92 — 7,8 тысячы, АІ-95 — 8,3 тысячы. Кошт 1 літра дызпаліва з 3 верасня складае 8,5 тысячы рублёў.

### У Прыдняпроўі

**На Могилевщине в ближайшее время заработают рыбокомплексы.**

Согласно инвестиционной программе в нынешнем году предусмотрена реализация трех инвестиционных проектов по сдаче в эксплуатацию рыбокомплексов по выращиванию форели и других ценных пород рыб: в Белыничском (мощностью 100 т рыбы в год), Быховском и Костюковичском районах – по 300 т рыбы в год каждый.

### У раёне

**Тэхнічны парк аддзела адукацыі, спорту і турызму Бялыніцкага райвыканкама папоўніўся новым аўтобусам.** Такі ж падарунак да новага навучальнага года па даручэнню кіраўніка краіны ад Банка развіцця Беларусі атрымалі яшчэ 9 раёнаў Магілёўшчыны.

Аўтатранспарт будзе выкарыстоўвацца для падвозу дзяцей да школ і дзіцячых садкоў, размешчаных у сельскай мясцовасці. Пры чым кіраваць аўтобусамі будуць выключна жанчыны. У нашым раёне гэтага ганаровага права ўдастоена Ганна Бекмансурава.

## З РЭКАМЕНДАЦЫЯМІ “ПЛАЎНАЙ ДЭВАЛЬВАЦЫІ” СПАЗНІЛІСЯ?

***Стала вядома, што эксперты Мінэканомікі краіны заявілі пра неабходнасць дэвальвацыі беларускага рубля.***




Такое меркаванне выказалі спецыялісты Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі. Яны лічаць неабходным “правядзенне ў кароткатэрміновым перыядзе плаўнай дэвальвацыі нацыянальнай валюты на велічыню дэвальвацыі курса расійскага рубля да долара ЗША з пачатку года для павышэння канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі на знешніх рынках і абароны ўнутранага рынку”.

Эканаміст Леанід Заіка лічыць, што плаўную дэвальвацыю трэба было правесці яшчэ ў пачатку года, калі стала відавочна: экспарт няўхільна падае.

Заіка: “Плаўная дэвальвацыя на ўзроўні 1, 2, 3% у залежнасці ад экспарта. Экспарт у нас упаў на 25%… Яны спазніліся з рэкамендацыямі… Трэба было зрабіць дэвальвацыю раней, расіяне зрабілі і ніхто не заўважыў”.

Леанід Заіка адзначае, што манетарнай палітыкай займаецца і прымае рашэнні не Міністэрства эканомікі, а Нацыянальны банк. Таму ў справе “плаўнай дэвальвацыі” варта чакаць заяваў менавіта Нацбанка.

***Еўрарадыё***

## Старинный некрополь обнаружили в Белыничском районе

**Некрополь предположительно XV-XVI веков обнаружили в Белыничском районе.**

На захоронение около деревни Студенка в Белыничском районе наткнулись лесники, когда рубили деревья. Они повалили один из надмогильных камней. Камень оказался около метра в длину, на нем видны знаки, кресты и кирилличные надписи. После находку стали изучать местные краеведы.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАК ВЫЖИТЬ?

***В нашей стране чиновники постоянно рассказывают красивые сказки о том, какой всемерной поддержкой в Беларуси окружены дети-инвалиды и молодые люди с особенностями психофизического развития.***

К глубокому сожалению, это не так. Сладкие речи чиновников очень далеки от действительного положения дел в тех семьях, которые самостоятельно продолжают воспитывать детей-инвалидов и молодых людей с особенностями психофизического развития после достижения ими 18-летнего возраста.

Вот что рассказала журналисту «Паходні» женщина, жительница Белынич, которая на протяжении многих лет сама воспитывает и досматривает дочь – инвалида с детства.

«Бог распорядился так, что моя девочка родилась особенной, ничего уже нельзя было исправить. Я не бросила своего ребёнка и сама досматриваю её уже двадцать семь лет. Хватило в моей жизни всего, но на трудности я жаловаться не привыкла, всегда старалась преодолеть их сама.

Меня больше всего возмущает то, когда наши чиновники рассказывают по телевизору и пишут в прессе, какой всесторонней заботой окружены инвалиды в нашей стране. Ведь в действительности это далеко не так. Приведу конкретный пример своей семьи.

Содержание ребёнка-инвалида требует больших затрат. Моей дочери сейчас государство выплачивает пенсию в размере 930 тысяч рублей. Этих денег и на еду не всегда хватает, а ведь дочери надо купить и одежду, и средства личной гигиены.

Сама я всю жизнь работала, в 50 лет пошла на льготную пенсию. Сразу мне дали 1 100 тысяч рублей, сейчас получаю 1 300 тысяч. Скажите, ну как можно прожить на эти деньги, при этом воспитывая дочь-инвалида? Поэтому и на пенсии работаю, хоть и очень сложно приходится, но выживать-то как-то надо.

Я вот думаю, почему наше государство не может дать достойную пенсию детям-инвалидам, которые воспитываются в семьях, ведь Республику Беларусь чиновники называют «социально ориентированным государством». Тем более, что на содержание таких детей в домах инвалидов деньги расходуются в разы больше, на каждого такого человека выделяется по несколько миллионов рублей. Почему бы не выплачивать такие же деньги семьям, которые сами воспитывают и досматривают детей-инвалидов, ведь сил и средств они расходуют не меньше, чем государство тратит на содержание инвалидов в специализированных учреждениях»?




Ответ на этот вопрос простой: нашим «слугам народа» надо перестать хвалить себя, любимых, и рассказывать о том, как они хорошо заботятся о социально незащищенных гражданах. Вместо этого мудрым чиновникам необходимо заняться конкретным делом и разработать необходимые нормативные документы, чтобы инвалид, воспитывающийся в семье, получал столько же денег на содержание, сколько затрачивается государством на содержание инвалида, находящегося в специализированном учреждении.

Вот тогда такие семьи смогут действительно жить, а не выживать, экономя даже на хлебе и молоке.

***Виктор Боровиков***

# ШКЛОЎСКІЯ ЎЛАДЫ ЗБІРАЮЦЦА АДМЯНІЦЬ “ДНІ ЦВЯРОЗАСЦІ”?

У адным з нумароў газеты “Ударны фронт” у рубрыцы “Зваротная сувязь” была надрукавана анкета з мэтай апытання насельніцтва па шэрагу пытанняў, якое праводзіць Шклоўскі райвыканкам.

У прыватнасці, спецыялісты райвыканкама пыталіся ў жыхароў Шклоўскага раёна, ці патрэбна ў раёне стварэнне мясцовага тэлебачання, як людзі адносяцца да правядзення ў будучыні “Малочных дзён”, калі ў гандлёвай сетцы ў такі дзень малочная прадукцыя будзе прадавацца з меншай працэнтнай надбаўкай, а таксама высвятлялі меркаванне шклаўчан наконт неабходнасці правядзення ў раёне Дзён цвярозасці.

Згодна дадзеных, прадастаўляемых Шклоўскім РАУС, у такія дні колькасць правапарушэнняў і злачынстваў заўважна зніжаецца, адзначалася ў газеце “Ударны фронт”. Шэраговыя ж шклаўчане ў асноўным ніякай карысці ад правядзення так званых “Дзён цвярозасці” не бачаць, бо складанасці з набыццём спіртных напояў у гэтыя дні ўзнікаюць толькі ў законапаслухмяных людзей, прыхільнікі “зялёнага змея” знаходзяць магчымасць набыць неабходны ім прадукт без вялікіх праблем.

Незадаволеныя шклаўчане нават звярнуліся з адпаведным пытаннем на асабістым прыёме да старшыні Шклоўскага райвыканкама Аляксандра Бойка. Яны прапанавалі яму замест правядзення Дзён цвярозасці лепш праводзіць “Дні малака”, калі малако будзе прадавацца ў крамах раёна з меншай гандлёвай надбаўкай, што прынясе больш карысці для людзей. Пасля гэтага кіраўнік Шклоўскага раёна і даручыў газеце “Ударны фронт” вывучыць грамадскую думку па гэтым пытанням.

Нагадаю, што летам мінулага

*(Заканчэнне на стар. 4)*

# УЛАДА Ў БЯЛЫНІЧАХ ЗМЕНІЦЦА ПАСЛЯ «ДАЖЫНАК”?

***Апошнім часам сярод жыхароў нашага раёна зноў пашырыліся чуткі, што ўжо ў хуткім часе ў Бялыніцкім райвыканкаме з’явіцца новы старшыня. Як кажуць некаторыя чыноўнікі, справа гэта ўжо практычна вырашаная, новы старшыня райвыканкама павінен прыйсці ў раён неўзабаве пасля святкавання “Дажынак” у Жлобіне.***

Ці спраўдзіцца гэта інфармацыя, пакажа толькі час, бо чуткі аб хуткім сыходзе з пасады Аляксандра Вароніна цыркулююць у чыноўніцкім асяроддзі нашага раёна ўжо даволі даўно, “Паходня” пісала пра іх яшчэ ў мінулым годзе. Між тым, нягледзечы на ўсе прагнозы раённых чыноўнікаў, Аляксандр Мікалаевіч працуе на сваёй пасадзе да гэтага часу.

Аднак верагоднасць таго, што Аляксандра Вароніна на яго пасадзе зменіць іншы чыноўнік, зараз сапраўды вельмі вялікая. Усе жахары Бялынiччыны памятаюць, як “добра” адазваўся пра старшыню Бялыніцкага райвыканкама падчас нарады па пытаннях жыллёвага будаўніцтва ў чэрвені гэтага года кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка.

Больш за тое, па неафіцыйнай, але дакладнай інфармацыі, вельмі жорсткая крытыка ў адрас Аляксандра Вароніна прагучала таксама і з боку старшыні беларускага ўрада Міхаіла Мясніковіча на пашыраным паседжанні Магілёўскага аблвыканкама ў жніўні гэтага года.

Па словах знаёмых аблвыканкамаўскіх чыноўнікаў, там на працягу ўсяго паседжання крытыкавалась дзейнасць уладных структур у Бялыніцкім і, у меншай ступені, Дрыбінскім раёне. Быцам бы дасталася нашаму Аляксандру Мікалаевічу па “поўнай праграме”…

Дарэчы, тыя ж чыноўнікі падзяліліся інфармацыяй, што старшыню Дрыбінскага райвыканкама Пятра Панасюгу на яго пасадзе павінен змяніць цяперашні намеснік старшыні аблсельгасхарчу па жывёлагадоўлі Алег Маслак. Па чутках, Пётр Іванавіч вернецца працаваць далей у сельскагаспадарчую акадэмію ў Горкі, ну а Алег Грыгор’евіч узначаліць Дрыбінскі райвыканкам, хоць вялікага жадання займаць пасаду старшыні ён не мае.




Што датычыцца Бялыніцкага раёна, то большасць знаёмых чыноўнікаў схіляецца да думкі, што да нас у Бялынічы ўсё ж прыйдзе працаваць цяперашні старшыня Чэрыкаўскага райвыканкама Мікалай Кадаценка. Ва ўсялякім выпадку, шмат хто ў Чэрыкаўскім райвыканкаме ў гэтым упэўнены амаль на 100%, Больш за тое, зараз некаторыя з чэрыкаўскіх чыноўнікаў чакаюць мяркуемага сыходу Мікалая Кадаценкі, як вялікага свята.

У якасці магчыма новага старшыні Бялыніцкага райвыканкама называюць прозвішча і іншага чалавека, аднак журналісты “Паходні” пакуль не будуць яго агучваць, бо не лічаць інфармацыю дакладнай.

У той жа час адзін з высокапастаўленых бялыніцкіх чыноўнікаў у прыватнай гутарцы з журналістам “Паходні” выказаў сумнеў, што змена старшыні райвыканкама ў Бялынічах адбудзецца ўжо ў хуткім часе. Ён мяркуе, што перамены ў раённай вертыкалі будуць ужо пасля выбараў у мясцовыя Саветы, якія павінны прайсці напачатку наступнага года.

Як кажаць, пажывём – пабачым, дыму без агню не бывае…

***Сяргей Семяновіч***

## Вор - ветеринар

Приговором суда Октябрьского района Могилёва накануне были осуждены два брата, работавшие врачами, за тайное похищение имущества, совершенное группой лиц, в крупном размере.

Один из недобросовестных эскулапов работал провизором в Могилевском областном онкологическом диспансере, а второй работал ветеринарным врачом в Белыничской районной ветеринарной

*(Окончание на стр. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# «ЗАБОТА» О ПЕНСИОНЕРАХ



Вот уже около сорока лет в СПК «Лебедянка» картофель члены хозяйства выращивают в севообороте кооператива, ранее колхоза.

В этом году мне и ещё шести пенсионерам отказали в выделении участка, мотивируя это тем, что в хозяйстве нет больше посевных площадей. Между тем, земли требовалось всего-то 1,2 га, по 20 соток на человека. Самое печальное, что в действительности в хозяйстве земли достаточно, более того, 100 гектаров самой лучшей земли который год зарастает чертополохом.

Считаю, что в выделении участка под картофель мне отказали просто, чтобы как-то ещё больше меня «согнуть», после судебного преследования началось экономическое.

Обратился к председателю хозяйства, чтобы помогли мне скосить сенокос и вместо положительного ответа о выделении косилки услышал отборную матерщину. А ведь я сдаю в хозяйство и теленка, и молоко. Да и просил не просто так помочь, а выписать за деньги…

В то же время буквально в километре от моего участка бывший председатель, а ныне заместитель председателя СПК «Лебедянка» свой сенокос скосил, стюковал, погрузил и перевёз техникой хозяйства. Сомневаюсь, что он внёс в кассу хозяйства хотя бы рубль…

Пришлось мне сено покупать, а участок так и остался не убранным. Такое вот уважение к пенсионерам, отработавшим по 40 и более лет в хозяйстве, в СПК «Лебедянка».

Отказали в выдаче зерна на заработанный рубль нескольким членам кооператива, почему-то среди них оказались те, кто дал правдивые показания по поводу моей публикации в газете «Могилёвский Выбор».

Меня удивляет, что, несмотря на то, что хотя наше хозяйство фактически является полным банкротом, однако это не мешает трактористам с известной фамилией получать зарплату выше, чем в самых передовых хозяйствах. Хотя, чему удивляться – главный агроном родственник, вот и зарплата. Непонятно только, куда смотрят экономисты и ревизионная комиссия, а также многочисленные районные контролирующие службы.

Получается, что для одних всё, для других ничего. Вот такая «забота», почёт и уважение пенсионерам в СПК «Лебедянка».

Только впереди этих слов забыли поставить «не»...

***Валерий Вусик***

# ШКЛОЎСКІЯ ЎЛАДЫ ЗБІРАЮЦЦА АДМЯНІЦЬ “ДНІ ЦВЯРОЗАСЦІ”?

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

мінулага года ў Шклоўскім раёне на тэрыторыі Гарадзішчанскага сельсавета была створаная “Зона цвярозасці”. Акрамя таго, райвыканкам забараніў рэалізацыю алкагольных, слабаалкагольных напояў і піва ў кафэ аграгарадкоў Гарадзішча, Фашчаўка, Славені, Стараселле, Гавяды, а таксама ў кафэ “Стары горад” у Шклове. Абмежаванні дзейнічалі з 21-00 у перадсвяточныя, святочныя, перадвыходныя і выходныя дні. Таксама ў Шклоўскім раёне рэгулярна праводзіліся Дні цвярозасці. Дадзеныя меры былі прапанаваныя начальнікам мясцовага РАУС Аляксандрам Піменавым.

Па меркаванню журналістаў газеты “Паходня”, вялікага эфекту забаронччая ініцыятыва шклоўскіх уладаў не дала, хутчэй наадварот. Пра “Зону цвярозасці” у Шклоўскім раёне зараз ніхто нават і не ўзгадвае, пра нейкі эфект Дней цвярозасці ў барацьбе са злачыннасцю таксама казаць не даводзіцца, крымінальная абстаноўка ў раёне ў гэтым годзе значна пагоршылася.

Што казаць, калі па выніках паўгоддзя ў Шклоўскім раёне назіраецца рост агульнай колькасці зарэгістраваных злачынстваў на 38% у параўнанні з мінулым 2012 годам.




Тым больш, грошай у дзяржаўныў бюджэце пастаянна не хапае, мясцовыя ж выбары ўжо хутка, а акцызы на віно і гарэлку складаюць 50-70% ад кошту бутэлькі. Пра якія дні і зоны цвярозасці можа ісці размова…

***Іван Барысаў***

# ЦІ ДАПАМОЖА БЕЛАРУСАМ “БАЦЬКОЎСКІ КЛОПАТ” У ВЫРАШЭННІ КВАТЭРНАГА ПЫТАННЯ?

***Як пры існаванні Савецкага Саюзу, так і ў незалежай Беларусі, дзяржава ўвесь час імкнецца пакінуць за сабой функцыю “бацькоўскага клопату” аб кожным чалавеку ў справе забяспячэння яго жыллём.***




Людзі старэйшага пакалення памятаюць славутую праграму часоў Савецкага Саюзу “Кожнай савецкай сям’і да 2000 года асобную кватэру”, або яшчэ ранейшую падобную праграму, якія так і засталіся нявыкананымі.

Да 2003 года ў нашай краіне дзейнічала Нацыянальная жыллёвая праграма. Але яна была прызнана не адпавядаючай эканамічным рэаліям таго часу, і на змену ёй была прынята Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь №943 ад 14 ліпеня 2003 году “Аб Канцэпцыі развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да 2015 года”.

Прайшоў час, і ўжо Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь за №97 ад 8 лютага 2013 года прыпынена выкананне вышэй згаданай Канцэпцыі.

У вышэйшых эшалонах улады, нарэшце, зразумелі, што кватэрнае пытанне ў нашай краіне да гэтай пары застаецца найбольш вострым.

За вырашэнне дадзенай праблемы надумаў узяцца А.Лукашэнка, паабяцаўшы “привести в чувство” усю будаўнічую галіну краіны, у тым ліку і карнымі мерамі.

“Строительная отрасль у нас не просто хронически больна. У нас вообще такая отрасль, какой она не должна быть в нашей стране. Поэтому мы ее приведем в чувство и оздоровим. Она будет работать в интересах народа. Терпеть сплошные жалобы от людей я как Президент не намерен, я обязан реагировать на общественное мнение”, — заявіў ён, адказваючы на пытанні журналістаў 26 ліпеня 2013 года.

Нажаль, за 19 год знаходжання на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе, Аляксандр Рыгоравіч так і не зразумеў сутнасці існуючай праблемы, звузіўшы яе да праблемаў у будаўнічай галіне, і не прыдумаў нічога новага для яе вырашэння. Проста знойдзены новы спосаб апраўдання сваіх хібаў у кіраванні дзяржавай, як гэта рабілі ў свой час камуністычныя лідары Савецкага Саюзу, апраўдваючыся разрухай жыллёвага фонду з часоў Вялікай Айчыннай вайны, у той час як іншыя краіны гэтую праблему вырашылі вельмі хутка.

Напрыклад, Федэратыўная Рэспубліка Германія вастрыню кватэрнага пытання зняла ўжо да пачатку 70-х гадоў дваццатага стагоддзя. А на пачатку 21-га ў Германіі налічвалася каля аднаго мільёна незаселеных кватэр, прыгодных па еўрапейскіх мерках для пражывання.

Вастрыня кватэрнага пытання ў Беларусі звязана ў першую чаргу з неразваротлівасцю адміністрацыйна-каманднага апарата. Практыка паказвае, дзяржава з’яўляецца неэфектыўным распараджальнікам як фінансавых сродкаў скіраваных у будаўнічую галіну і сферу эксплуатацыі жыллёвага фонду з бюджэту краіны, так і сродкаў грамадзян.

Па-другое, наяўнасць карупцыйнага складніка ў будаўнічай сферы, пачынаючы ад прыняцця рашэння аб выдзяленні ўчасткаў пад забудову і да ўвядзення жылля ў эксплуатацыю, прыводзіць да ўзрастання сабекошту квадратнага метра жылплошчы амаль удвая.

Па трэцяе, адсутнасць канкурэнцыі ў сферы будаўніцтва, рамонта і эксплуатацыі жылога фонда адмоўна ўплывае на якасныя паказчыкі жылля, змяншае яго эксплуатацыйныя якасці.

Па-чацвёртае, дзяржава не спрыяе прыходу ў будаўнічую сферу прыватнага капіталу, што звужае магчымасці грамадзян краіны ў атрыманні і будаўніцтве жылля.

Яскравым прыкладам неразваротлівасці чынавенцкага апарату ў вырашэнні кватэрнага пытання можа служыць сітуацыя з невыдзяленнем участкаў для будаўніцтва прыватных катэджаў у Магілёве.

Так, напрыклад, каля тысячы маладых сямей стаяць у чарзе тэрмінам ад трох да дзесяці год на атрыманне ўчасткаў на тэрыторыі прыгараднага Цішоўскага сельскага Савета.

Такіх выпадкаў па Беларусі сотні, як быццам бы ў нас не хапае зямлі для будаўніцтва жылля.

Вышэйшае беларускае чынавенства павінна, нарэшце, зразумець, што для хутчэйшага вырашэння

(Заканчэнне на стар. 5)

# БЕЛЫНИЧИ: МНОГОДЕТНЫЕ СЕМЬИ СМОГЛИ ПОЛУЧИТЬ ЖИЛЬЁ В НОВОМ ДОМЕ

***В середине августа многодетные родители, члены ЖСК «Двенадцать» городского посёлка Белыничи, наконец-то получили на руки ключи от построенных квартир в новом доме.***




Это знаменательное событие произошло после визита в Белыничи 14 августа первого заместителя председателя Могилёвского облисполкома Анатолия Чёрного.

- Анатолий Чёрный провёл встречу с членами нашего кооператива и белыничскими чиновниками, – рассказывает председатель ЖСК «Двенадцать» Пётр Шимбалёв. – На ней он сообщил нам, что многодетные семьи могут вселяться в свои квартиры в построенном нами доме, а также дал указание местным чиновникам выдать нам ключи от наших квартир.

Между тем, вопрос о том, из каких источников будет профинансирована полная стоимость наших квартир, по-прежнему остаётся открытым. Первый заместитель председателя Могилёвского облисполкома заверил нас, что проблема будет решена на протяжении нескольких месяцев, так как есть сложности с её окончательным решением в рамках существующего правового поля.

Наконец-то мы получили ключи от квартир в построенном нами доме, ведь его сдали в эксплуатацию ещё в конце июня, а нам не позволяли туда вселиться полтора месяца. При этом мы вынуждены были платить деньги в счёт погашения кредитов, хоть в квартирах и не жили.

- Также хотелось бы высказать нашу благодарность всем тем людям, которые приняли участие и оказали помощь в нашей многомесячной борьбе за соблюдение наших законных прав. Особенно хотелось бы поблагодарить Президента Александра Лукашенко, депутата Совета республики НС РБ Валерия Иванова, а также белыничских активистов «Говори правду», которые на протяжении всего этого времени оказывали многодетным семьям юридическую и информационную помощь и поддержку, – говорит Пётр Шимбалёв.

Напомним, что льготные кредиты на строительство жилья белыничским многодетным семьям были выделены исходя из показателя стоимости строительства 4,6 млн. рублей за 1 квадратный метр, как это определено постановлением Совета Министров Республики Беларусь № 1023 от 6 ноября 2012 года.

Между тем, реальная стоимость 1 квадратного метра жилья в ПЖСК «Двенадцать» составила 7 994 806. Белыничские чиновники предлагали многодетным родителям доплатить из собственных средств 3 394 806 рублей за квадратный метр либо отказаться от строительства, хотя задержка со строительством дома и вводом его в эксплуатацию произошла именно по вине этих самых чиновников. В этот период как раз и было принято злополучное постановление Совмина, изменившее порядок финансирования строительства льготного жилья.

Понятно, что таких больших денег у многодетных семей просто небыло. Не могли многодетные родители взять и не льготный кредит на такую сумму в банке, так как при их уровне доходов ни один банк не рискнул бы выделить такой кредит, многодетные семьи попросту не смогли бы его обслуживать.

Членам ЖСК "Двенадцать" пришлось обращаться в десятки разных инстанций, пока проблема со строительством двенадцатиквартирного дома для многодетных семей в Белыничах не была озвучена на совещании у руководителя белорусского государства Александра Лукашенко в июне этого года. Александр Лукашенко поставил перед чиновниками задачу решить вопрос ввода в эксплуатацию дома в Белыничах с соблюдением интересов многодетных семей – членов ЖСК "Двенадцать".

Сейчас счастливые обладатели благоустроенных квартир в новом доме заняты их обустройством.

***Богдан Иванов***

## ЦІ ДАПАМОЖА БЕЛАРУСАМ "БАЦЬКОЎСКІ КЛОПАТ" У ВЫРАШЭННІ КВАТЭРНАГА ПЫТАННЯ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

кватэрнага пытання, на ўзроўні дзяржавы неабходна тэрмінова прыняць наступныя меры ;

- паспрыяць прыцягненню ў будаўнічую галіну прыватнага капіталу, дзеля чаго праз змяненні ў беларускім заканадаўстве стварыць неабходныя ўмовы для яго дзейнасці на тэрыторыі Беларусі;
- адмовіцца ад манаполіі дзяржаўных прадпрыемстваў на права будаўніцтва, рамонта і эксплуатацыі жыллёвага фонду, праз забяспячэнне раўнапраўнага існавання дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў стварыць умовы для канкурэнцыі ў гэтых сферах;
- заканадаўча забяспечыць права грамадскага кантролю за расходваннем бюджэтных, крэдытных сродкаў і сродкаў насельніцтва, выдзяляемых на будаўніцтва, рамонт і эксплуатацыю жылля;
- на заканадаўчым узроўні стварыць спрыяльныя ўмовы для грамадзян краіны, пажадаўшым самастойна вырашаць сваё кватэрнае пытанне.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ***

# ПАМЁР ЖУРНАЛІСТ ГЕНАДЗЬ СУДНІК

***У Магілёве ў ноч на 24 жніўня на 71-ым годзе жыцьця памёр журналіст Генадзь Суднік. Ён цяжка хварэў. У яго быў рак лёгкіх. За тры дні да скону Генадзь Суднік адзначыў сваё сямідзесяцігодзьдзе.***

Генадзь Вітольдавіч Суднік нарадзіўся 21 жніўня 1943 году ў расейскім Арэнбургу. Служыў у танкавых войсках. Вучыўся на журналіста ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Яшчэ за савецкім часам зрабіў неблагую кар'еру журналіста і партыйнага функцыянэра. Пасьля жнівеньскіх падзеяў 1991 году далучыўся да руху БНФ «Адраджэньне».

Больш за сорак гадоў быў знаёмы з Генадзем Суднікам журналіст Анатоль Гуляеў. Пазнаёміліся яны ў далёкім 1971 годзе. Тады спадар Анатоль толькі дэмабілізоўваўся з войска і стаяў на жыцьцёвым раздарожжы. Генадзь Суднік стаў тым, хто падказаў шлях у журналістыку Анатолю Гуляеву. Цяпер журналіст адзначае тое, што было для Генадзя Судніка справаю жыцьця — стварэньне студыі тэлебачаньня Магілёўшчыны. Гэта быў час васьмідзесятых. Магілёў быў тады адзіным з абласных гарадоў Беларусі, дзе не было ўласнай студыі тэлебачаньня:

Анатоль Гуляеў «Ён так быў захоплены гэтай ідэяй, што пакінуў прэстыжную пасаду, пераехаў зь сям'ёй у Магілёў і пачаў ствараць магілёўскае тэлебачаньне. Яму давялося рабіць усё з нуля, шмат займацца навучаньнем кадраў. У выніку ён стварыў гэты тэлерадыёкамітэт. Беларуская журналістыка ў асобе Генадзя Судніка згубіла ня толькі моцнага журналіста, але і дужа сур'ёзнага арганізатара».

У 1994-м годзьдзе Генадзю Судніку давялося сысьці з пасады старшыні Аблтэлерадыёкамітэту. Для каманды абранага прэзыдэнта журналіст быў чужым. Сябар Генадзя Судніка актывіст руху «За свабоду» Віталь Васількоў згадвае:

«Генадзь Вітольдавіч найперш заявіў пра свае дэмакратычныя погляды і прыналежнасьць да тагачаснага БНФ. Яму проста прапанавалі перадаць справы маладому чалавеку, які прыехаў зь Менску — Ягору Рыбакову. Ён ніколі больш не прасіўся пасьля зыходу зь дзяржаўнага тэлебачаньня на дзяржаўную працу. Для яго гэта было дужа цяжка, але ён прыняў гэта як належнае».



***Генадзь Суднік***

Генадзь Суднік знайшоў сябе ў незалежнай журналістыцы. Рэдактарка навінаў незалежнага тэлеканалу «Магілёў-2» Алена Барысава адна з тых, каму Генадзь Суднік у Магілёве дапамог стаць тэлежурналістам. Генадзь Суднік быў дырэктарам тэлеканалу:

«Уявіць сабе журналістыку ў дзевяностыя без Судніка немагчыма. Для тэлебачаньня ён быў і альфай і амегай. У дзевяностыя, калі ніхто ня ведаў як трэба працаваць на тэлебачаньні, ягонай галоўнай рысай было тое, што ён даверыў працу нам маладым. Ён нам тактоўна падказваў, даваў волю творчасьці. Для маладых журналістаў ён быў апірышчам. З ім можна было пагаварыць, параіцца. Паскардзіцца на ягоныя ж заўвагі. Але толькі потым ты разумееш, як многа ён аддаваў».

Беларушчына была для Генадзя Судніка тым, што вызначала яго выбар у няпростых жыцьцёвых сытуацыях. Усё, за што браўся журналіст было беларускамоўным. Тое адзначае сябра Таварыства беларускай Мовы Міхась Булавацкі:

Міхась Булавацкі «Ён сын вайскоўца і меў права не вучыць беларускую мову і ён яе не вучыў. Але пасьля таго як ён трапіў у рэдакцыю газэты „Магілёўская праўда", якая на той час была цалкам беларускамоўнай, ён проста ашалеў ад захапленьня мовай, як сам казаў: „Якая прыгожая мова". Не вывучаючы яе ў школе, сам урэшце засвоіў так, што карыстаўся ёй на прыстойным узроўні. Ён бараніў мову і на радыё і на тэлебачаньні. Гэты чалавек сымбаль беларускай журналістыкі».

Бабруйскі журналіст Анатоль Санаценка, згадваючы Генадзя Судніка адзначае ягоныя чалавечыя якасьці, якія гарманічна спалучаныя з прафэсійнымі:

«У ім была нейкая рэдкая чалавечая цеплыня ды шчырасьць. І гэта дужа прываблівала. Генадзь суднік быў прафэсіянал, якіх мала і гэта цяпер назаўжды. Зь ягоным зыходам Магілёва стала менш».

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## УЧАСТКОВЫЙ ПАВЕЛ ХИЛЬКО НАШЁЛ ЖЕНЩИНУ

***Восемь дней 74-летняя пенсионерка из Белыничского района провела в лесу. Пожилую женщину разыскали сотрудники милиции.***

9-го августа Александра Романовна Трухина из поселка Медик ушла в лес за грибами и не вернулась. Через два дня об исчезновении матери заявил сын, когда, приехав в гости, не застал ее дома. Осложнялась ситуация тем, что у пенсионерки случались провалы в памяти, а значит, она могла просто-напросто забыть дорогу домой...

Если взять карту местности, то поселок Медик найти на ней не сразу легко – со всех сторон окруженный глухим плотным лесом, он будто бы стоит посреди него. На поиски незамедлительно отправились сотрудники следственно-оперативной группы Белыничского РОВД. И первым делом тщательно осмотрели дом, чердак и всю прилегающую территорию, ведь месяц назад Александра Романовна уже пропадала…

В тот раз старушку сотрудники милиции обнаружили на чердаке – миниатюрная женщина, провалилась в треснувшие под ногами прогнившие доски и не могла самостоятельно выбраться. Три дня она звала на помощь, но снявший слуховой аппарат супруг ее не слышал. Обеспокоенный долгим отсутствием жены, он вызвал милицию. И только сотрудники следственно-оперативной группы, осматривающие дом, расслышали слабые стоны и вызволили пленницу. После этого случая пенсионерка быстро оправилась, только стала немного прихрамывать.

Однако на этот раз Александры Романовны нигде не было. Узнать, куда направилась женщина, помогла соседка, которая видела, как та собиралась в лес. Она запомнила, что бабушка была в красных сапогах и бордовой кофте, а так же указала на недавно появившуюся хромоту.

Милиционеры прочесали всю ближайшую местность, объездили станцию Друть и соседние деревни, опрашивая жителей – никто Александру Романовну не видел. Искали женщину до глубокой ночи, выкрикивая в рупор ее имя. Результата не было.

С каждым днем поиски усиливались. Белыничские милиционеры связались с лесничими, опрашивали встречных грибников, развешивали листовки с призывом о помощи и приметами пропавшей, прочесывали ближайший лес, озера, периодически наведывались к соседям... Помог знакомый пенсионерки, который вспомнил, что видел ее в лесу через два дня после исчезновения и указал на место. Придерживаясь его объяснений, сотрудники милиции разработали план прочесывания леса, и вместе с лесничим весь личный состав Белыничского РОВД выдвинулся на поиски.

Обнаружили женщину на делянке за горой веток участковый инспектор милиции капитан Павел Хилько и оперуполномоченный уголовного розыска старший лейтенант Сергей Войтенков. Несколько дней Александра Романовна лежала, сил оставалось мало. Ослабленной и обезвоженной заложнице леса оказали первую помощь, напоили водой и вызвали «Скорую».

Машина в лес, конечно, проехать не могла, к ней Александру Романовну выносили на носилках, сделанных из собственных курток, прибывшие офицерам на помощь коллеги.

На «Скорой» пенсионерку доставили в реанимацию, и уже через пару дней перевели в неврологическое отделение. Сейчас Александра Романовна чувствует себя хорошо, безмерно благодарит спасших ее милиционеров, и каждый день ругает себя: «И зачем мне эти грибы надо были?».

***Мария Хлыстова, uvd.mogilev.by***

## ПАМЁР ЖУРНАЛІСТ ГЕНАДЗЬ СУДНІК

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

Генадзь Суднік пасьля зыходу з пасаду старшыні абласной студыі тэлебачаньня акрамя тэлеканалу «Магілёў-2» рэдагаваў грамадзка-палітычныя газэты «Ратуша» і «Тыднёвік магілёўскі», які падаваў матэрыялы клясычным беларускім правапісам — тарашкевіцай.

Сябра Праўленьня Беларускай асацыяцыі журналістаў. Сябра ТБМ і беларускага Пэн-цэнтру. Супрацоўнічаў з шэрагам айчынных і замежных мэдыяў.

У яго засталіся дарослы сын і жонка.

Пахавалі журналіста на Грузоўскіх могілках у Магілёве.

Спі спакойна, дарагі сябар…

* * *

*Збірае жнівень каласы*
*І сыпле ў суднік ураджай;*
*А над бажніцай - галасы,*
*Калі не чуеш - выбачай;*

*Калі спякота - ветрык ёсць.*
*Калі балюча - памаўчы;*
*І ўжо імкнецца недзе хтось*
*Аддаць таемныя ключы;*

*І незваротнасці няма,*
*І Бог, дарэчы, не глухі -*
*Даруе ўрэшце задарма*
*Нам неадкупныя грахі.*

***Мікола Яцкоў***

## Вор - ветеринар

*(Оконч. Начало на стр. 3)*

станции.

Предприимчивые братья воровали и продавали колёса от автомобилей, а деньги делили между собой.

Суд признал обоих виновным в совершенном преступлении и в качестве меры наказания назначил каждому по 3 года лишения свободы с отбыванием наказания в исправительной колонии в условиях усиленного режима и с конфискацией имущества.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.09. 2013 г. у 08-00.